Przesyłka opłacona ryczałtem

№ 18 Серада, 23-га Чэрвеня 1926 г. м. Вільня Год I

# БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА

Выходзіць раз у тыдзень Цана нумару 20 грош.

**Нацыянальнае адраджэньне.—Тэрыторыяльная і культурна-нацыянальная аутаномія.—Зямля сялянам на падставе уласнасьці.—Шырокі дэмакратызм.—Барацьба з комунізмам.—Нацыянальная царква.—Краевая згода.—Далучэньне Усходняй Беларусі да Заходняй.**

Падпісная цана на 1 месяц 1 зл.
" " 3 " 2 зл. 50 гр.
Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka 1 Hotel „Sokołowski" pokój Nr 23. Рэдакцыя адчынена ад 12 — 2 гадз. штодня апрача сьвятаў.

Цана абвестак: перад тэкстам— 20 гр.
" сярод тэксту — 25 гр.
" на апош. стар. — 10 гр.
За радок нонпарэля.

## ПЕРАД ЗЬЕЗДАМ.

Беларускае парлямэнцкае прадстаўніцтва ў Сойме збанкрутавала, дзякуючы сваей няздольнасьці да палітычнай працы.

Народ, які чатыры гады назад ахвотна аддаваў свае галасы за № 16 з верай і надзеяй, што яго паслы здалеюць хоць крыху палепшыць гаротнае жыцьцё селяніна, цяпер, пабачыўшы, што ня толькі нічога не палепшала, а—наадварот—зрабілася яшчэ гарэй, страціў веру ў сваіх выбранцаў і ўжо ня мае надзеі, каб яны здалелі здабыць нешта рэальнае. Уся дасюлешняя праца беларускага пасольскага клюба была толькі нэгатыўная, а соймавая трыбуна служыла паслам толькі дзеля агітацыі.

Зусім не зьмяніла палажэньня і „дыфэрэнцыацыя" нашых парлямэнцкіх сілаў. Ніводная з выліўшыхся з Беларускага Пасольскага Клюба палітычных групаў не праявіла таго палітычнага розума, які адзначаецца зразуменьнем перажываемага мамэнта, здольнасьцю да разумных кампрамісаў, якія неабходны ў жыцьці наагул, а ў палітычным асабліва, дзеля таго, што даюць магчымасьць паразуменьня з праціўнікамі, даюць магчымасьць здабыцьця таго максімум канцэсіяў, якія ў сучасны мамэнт здабыць магчыма дзеля палёгкі ў культурна-эканамічным жыцьці беларускага народа.

Усё тое самае варожае да польскай дзяржаўнасьці, „рэвалюцыйнае" становішча беларускіх дэпутатаў усіх угрупаваньняў, не дае магчымасьці польскай дэмакратыі весьці з імі ніякіх перагавораў і працягнутая да нас рука згоды вісіць у паветры.

Дзеля палепшаньня долі нашай зямелькі патрэбны згодныя натугі ўсей дэмакратыі, якая тут жыве, бяз розьніцы нацыянальнасьцяў, бо гэта ёсьць супольнае будаўніцтва лепшай новай будучыны.

Беларуская Часовая Рада, якая дагэтуль кіравалася ідэалёгіяй праціленжнай да ідэалёгіі беларускага офіцыяльнага прадстаўніцтва, заклікаючы ня раз польскую дэмакратыю да супольнай працы над палепшаньнем долі нашага сярмяжнага брата, хаця ў народных масаў здабывала ўсё больш ды больш сымпатыяў, аднак не зьяўлялася органам правамоцным прамаўляць ад імя беларускага народа; ворагі яе няраз падчырківалі гэту яе „часовасьць" і праціўставілі ей „офіцыяльнае" беларускае прадстаўніцтва ў Сойме.

Але жыцьцё ідзе наперад, творыць непрадбачаныя навет найбольш дальназоркімі палітыкамі магчымасьці і выклікае патрэбу перагляду сілаў. Жыцьцё высоўвае патрэбу ўтварэньня гэткага палітычнага органа, які мог-бы рэпрэзэнтаваць тыя беларускія масы, якія разачараваўшыся ў правільнасьці палітычнай лініі, якую вядуць дагэтуль яго „офіцыяльныя" прадстаўнікі ў Сойме, хочуць увайсьці на шлях конкрэтных, рэальных дамаганьняў і творчай працы, якія хочуць будаваць сваё жыцьцё не на ненавісьці, а на згодным сужыцьці ўсіх народаў, што жывуць на нашай зямельцы.

Дзеля таго, каб утварыць гэткі орган, з ініцыятывы Беларускай Часовай Рады, 27 чэрвеня г. г. склікаецца беларускі зьезд, на якім сабраўшыяся прадстаўнікі ад беларускага народа павінны сказаць сваё слова і выбраць людзей, якім ляжыць на сэрцы дабро беларускага народа і якія патрапілі-б змагацца за яго не пустымі дэмагогічнымі прамовамі з соймавае трыбуны, але робячы тую шэрую, чорную, штодзенную працу, небагатую эфэктамі, але багатую рэальнымі рэзультатамі, якая дасьць нашаму сярмяжнаму люду лепшае, сьвятлейшае жыцьцё.

Нам патрэба школаў, патрэба памяншэньня непасільных падаткаў, заспакаеньня зямельнага голада, дзерава для адбудовы, зярнятаў для пасеваў.

Ня гледзячы на сыпаўшыяся з соймавае трыбуны прыгожыя прамовы ды нязьлічаныя інтэрпэляцыі, апошнія школы зачынены, апошні дабытак забіраецца за падаткі, цэлыя вёскі дагэтуль замест у хатах—жывуць у паваенных зямлянках.

Патрэбны не прыгожыя словы, але цяжкая, упартая праца.

Вось-жа сабраўшаеся на Зьезьдзе Заходняй Беларусі сялянства хай выбярэ ў свой новы орган—прадстаўніцтва людзей, якія хочуць і могуць змагацца за лепшую долю свайго народа, для якіх грамадзкае шчасьце важней за свой асабісты дабрабыт.

## ПАЛІТЫЧНЫ АГЛЯД.

Агульную ўвагу прыцягваюць да сябе Нямеччына, Францыя і Англія, дзе адбываюцца важныя палітычныя падзеі.

У Нямеччыне, пасьля часовай перадышкі ізноў пачалося рашучае змаганьне рэспубліканцаў з манархістамі. Але цяпер гэтае змаганьне прыняла больш выразныя формы. Манархістаў адкрыта падтрымоўвае прэзыдэнт рэспублікі фэльдмаршал Гіндэнбург і „рэспубліканскі" ўрад Маркса-Штрэзэмана. Першай прычынай гэтага змаганьня быў загад ранейшага канцлера Лютэра аб увядзеньні ранейшага імпэратарскага чорна-бела-чырвонага сьцяга. Хаця гэты загад быў зроблены за згодай ўсяго кабінэта і прэзыдэнта рэспублікі, аднак у адстаўку выйшаў толькі адзін канцлер, а самы загад застаўся правамоцным. Яшчэ больш выразным выявіліся сымпатыі рэспубліканскага ўрада да ранейшага панаваўшага дома ў пытаньні аб канфіскацыі на карысьць дзяржаўнага скарбу маемасьці быўшых каралёў і князёў. Першыя паднялі пытаньне аб канфіскацыі некатарых маемасьцяў быўшых панаваўшых дынастыяў на карысьць дзяржавы сацыял-дэмакраты амаль што не адразу пасьля рэвалюцыі. Але толькі цяпер гэта пытаньне ўвайшло ў рашучую фазу. Ні урад, ні рэйхстаг не прызналі сябе компэтэнтнымі ў гэтай справе і прыйшлося зьвярнуцца да ўсіх грамадзянаў, якія павінны былі высказацца праз рэфэрэндум, г. зв. агульнае народнае галасаваньне. Рэйхстаг вызначыў дзень рэфэрэндума на 20 чэрвеня. Пры гэтым нарабіла шмат гомана пісьмо прэзыдэнта Гіндэнбурга да быўшага міністра Лебэля. У гэтым пісьме Гіндэнбург лічыць чорнай няўдзячнасьцю з боку народа конфіскацыю маемасьці ранейшых каралёў і калі-б гэты акт здарыўся, дык пагражае ён нейкімі „рэзультатамі". Рэспубліканская прэса рашуча выступіла проці гэтага пісьма прэзыдэнта рэспублікі, які па духу констытуцыі павінен быць нэйтральны ўва ўсіх пытаньнях. А Гіндэнбург, якога ўсе правільна лічылі імпэратарскім намесьнікам на становішчы прэзыдэнта, ня лічыў патрэбным далей гуляць гэтую камэдыю і аканчальна зьняў з сябе маску рэспубліканства. Але цікаўна ў гэтай палітычнай гульні тое, што цяперашні рэспубліканскі ўрад, таксама падтрымаў прэзыдэнта, зусім згаджаючыся з яго поглядам, высказаным у пісьме. Урад гэтак сама лічыць бяспраўным адабраньне маемасьці быўшых каралёў, якія разам з усімі нямецкімі грамадзянамі карыстаюцца на падставе констытуцыі правам нечапаемасьці іхняй маемасьці. Адгэтуль відаць, якая паважная бітва між рэспубліканцамі і манархістамі павінна будзе разыграцца 20 чэрвеня. І тыя і другія мабілізуюць ўсе свае сілы. Але зусім магчыма, што манархісты праіграюць. Гіндэнбург атрымаў адносную большасьць пры выбарах прэзыдэнтам дзякуючы толькі таму, што сац.-дэмакраты, комуністы і цэнтр галасавалі кожны паасобку. А цяпер сацыялісты і комуністы будуць галасаваць разам. Частка дэмакратаў і цэнтра таксама пададуць свае галасы за рэспубліканцаў. Але незалежна ад таго, хто выйграе, гэта бітва можа быць надта багата сваімі рэзультатамі. Есьць магчымасьць, што манархісты пастараюцца гвалтам зрабіць дзяржаўны пераварот. Нядаўна акурат быў раскрыты вялізны загавар манархістаў, падгатаўляўшыхся да дзяржаўнага пераварота.

Калі цяпер глянем на Францыю, дык там таксама ідзе ўнутраны палітычны працэс, падобны да таго, як у Нямеччыне. Там гэтак сама паварот управа. Кабінэт Брыяна падаўся ў адстаўку і акурат у той час, як быў колькі разоў пераможцам на палітычным і эканамічным фронце. Прычынай адстаўкі кабінэта Брыяна быў поўны развал левага блока і немагчымасьць супрацоўніцтва з сацыялістамі. Састаўленьне новага кабінэта ізноў даручана Брыяну, які вядзе перагаворы з прадстаўнікамі правых нацыянальных групаў, навет з Пуанкарэ. У цяперашні мамэнт нельга яшчэ прадбачыць, у якую форму выльецца новы францускі кабінэт. Цяпер толькі можна сьцвердзіць, што ідэя дзяржаўнага супрацоўніцтва з сацыялістамі аканчальна развалілася.

Што-ж датычыцца ангельскага консэрватыўнага ўрада Балдуіна, дык ягонае становішча пасьля ўдачнага адпора арганізаванай атакі з боку ўсяе работніцкае клясы—нязвычайна ўзмацавалася. Да гэтага яшчэ прычыніліся ўсьпехі ангельскай дыпляматыі ў Моссульскім ды Эгіпецкім пытаньні. Праўда, забастоўка ў каменнаўгальнай прамысловасьці яшчэ трывае далей, але з дня на дзень спадзяюцца поўнай яе ліквідацыі і аканчальнай няўдачы рабочых. Спра-

ва ў тым, што ўстаноўлена адкрытае фінансавае падтрыманьне забаставаўшых рабочых савецкім урадам. Гэта падцьвердзіў сэкрэтар саюза ангельскіх вуглякопаў Кук ды і сам савецкі ўрад. Дагэтуль выслана з С.С.Р.Р. у Англію дзеля падтрыманьня забаставаўшых рабочых больш за 4 мільёны рублёў. Савецкі ўрад заяўляе, што гэта грошы не ўрадовыя, а савецкіх прафэсыянальных саюзаў. Але гэта няпраўда, якой ніхто ня верыць. Перш-на-перш савецкія прафэсыянальныя саюзы зьяўляюцца гэткай самай часткай савецкай улады, як і комуністычная партыя. Па-другое, савецкі ўрад не дазваляе свабодна пасылаць грошы заграніцу, асабліва гэткія вялізныя сумы. Гэта ёсьць звычайнае падтрыманьне савецкім урадам заграничнай прапаганды, якую ён вёў і вядзе ў Эўропе, Азіі, Афрыцы і Амэрыцы. І гэта ў той час, як у С.С.Р.Р. больш за 2 мільёны безработных, калі большасьць фабрык зачынены дзеля таго, што няма сыр'я, калі з расейскага сялянства даўно ўжо садрана сёмая скура! Дый што расейскаму абадранаму, галоднаму селяніну або рабочаму да ангельскага рабочага, які жыў у гэткіх варунках, якіх расейскі рабочы нават ува сьне ня бачыў. Гэта проста зьдзек над расейскім селянінам і рабочым! —ён ратуе ангельскага рабочага, атрымліваўшага больш за рабочага ў кожнай эўрапэйскай дзяржаве, сам паміраючы ад голаду. Ангельскі вуглякоп і цяпер атрымлівае ад 200 да 225 злотых у тыдзень. Ангельскі ўрад лічыць зусім недапусьцімым гэткае грубае ўмешацельства з боку С.С.Р.Р. ува ўнутраныя справы Англіі. Ен паслаў Саветам вострую ноту, у якой пагражае разрывам дыпляматычных зносінаў. Зусім магчыма, што ангельскі ўрад падтрымліваемы ўсім грамадзянствам, выступіць больш рашуча проці вуглякопаў, якія сваей забастоўкай пазбавілі работы каля 4 мільёнаў рабочых. Забастоўка гэта адбіваецца як на палажэньні рабтніцкай клясы, гэтак і ўсей ангельскай прамысловасьці і эканамічным палажэньні края. Толькі, дзякуючы вялікай палітычнай талеранцыя, якая ёсьць у Англіі, магчымы гэткія спакойныя адносіны ангельскага ўраду і грамадзянства да выразна процідзяржаўнай дзеяльнасьці рабочых. Але ангельскі ўрад мае мабыць на мэце аканчальна аскандаліць, унізіць і дыскрэдытаваць ангельскіх рабочых перад ангельскім грамадзянствам. Шмат хто з вуглякопаў ужо вяртаецца на работу на варунках горшых за тыя, якія былі перад забастоўкай. Ангельскі ўрад падаў у парлямэнт праэкт закона, паводле якога ўводзіцца на 3 гады васьмігадзінны рабочы дзень у копях пад зямлёй Дагэтуль абавязываў сямігадзінны рабочы дзень пад зямлёй і васьмігадзінны на зямлі. Вось якую перамогу атрымалі вуглякопы ў рэзультаце амаль што не двохмесячнай забастоўкі! Не памаглі і бальшавіцкія грошы. Ангельскае грамадзянства паказала сябе зусім дастойным называцца запраўднымі грамадзянамі сваей бацькаўшчыны.

N.

З увагі на тое, што многія дэлегаты паведамілі аб немагчымасьці прыехаць на зьезд у рабочы дзень і дзеля гэтага просяць перанясьці яго на дзень сьвяточны

## ЗЬЕЗД ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

вызначаны раней на сераду 23 чэрвеня, **пераносіцца і абавязкова адбудзецца ў нядзелю 27 чэрвеня г.г.**

## АПОШНІЯ НАВІНЫ.

### У ПОЛЬШЧЫ.

— Урад апрацаваў праэкт зьмены Канстытуцыі. Паводле гэтага праэкту Прэзыдэнту Рэспублікі будзе надана права роспуску Сойма і Сэната, а таксама права выдаваць законы ў часе роспуска Сойма. Левыя партыі не згаджаюцца на гэткае пашырэньне правоў Прэзыдэнта і дамагаюцца роспуска Сойма і вызначэньня новых выбараў на падставе істнуючага выбарнага закона.

— Міністрам зялезных дарог назначаны інж. П. Рамоцкі.

На становішча міністра зямельнае рэформы назначаны вядомы віленскі дэмакрат, прафэсар унівэрсытэта Вітольд Станевіч, які ўжо даў на гэта сваю згоду.

— Апрацоўваецца праэкт амністыі для палітычных вязьняў. Амністыі будуць падлягаць вязьні, справы якіх пачаты да 2 чэрвеня г.г.

— Паседжаньне Сойму вызначана на 22 г. чэрвеня.

— Урад апрацоўвае праэкт новай „крэсавай“ палітыкі, які прадбачыць правядзеньне ў жыцьцё Канстытуцыі, шляхам наданьня нацыянальным меншасьцям поўных грамадзянскіх правоў, а таксама палепшаньня адносінаў адміністрацыі. Першым крокам на гэтым шляху будзе зьмена наваградзкага і палескага ваяводаў. Праэкт прадбачыць урэгуляваньне культурнага і школьнага пытаньняў.

— Варшаўскі вайсковы суд засудзіў забойцу Г. Ліндэ—сэржанта Тшэмелеўскага на 10 гадоў цяжкай турмы.

### З ЗАГРАНІЦЫ.

**Англія.** Ангельскі ўрад атрымаў ад Чычэрына адказ на сваю ноту ў справе падтрыманьня бальшавікамі забастоўкі вуглякопаў. У сваім адказе Чычэрын цьвердзіць, што грошы забастоўшчыкам перасылаў быццам не савецкі ўрад, а прафэсыянальныя саюзы. Гэты адказ зрабіў дрэннае ўражаньне, бо ўсім добра ведама, што ў Саўдэпіі няма незалежных ад ураду прафэсыянальных саюзаў, а ўсе яны зьяўляюцца ўрадовымі ўстановамі. Прэса дамагаецца разрыву зносінаў з бальшавікамі.

— Забастоўка ў вугальнай прамысловасьці яшчэ не скончана. Агульныя страты ад гэтай забастоўкі дасягаюць 250 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў.

**Францыя.** Пасьля выхаду ў адстаўку кабінэта Брыяна, прэзыдэнт даручыў фармаваньне новага кабінэта тамуж Брыяну. Але з прычыны таго, што перагаворы з прадстаўнікамі партыяў аб утварэньні шырокай урадовай коаліцыі не далі пажаданых рэзультатаў, Брыян адмовіўся ад сваей місіі. Фармаваньне кабінэту даручана Эрыо.

**Нямеччына.** На 20 чэрвеня ў Нямеччыне была назначана агульнае народнае галасаваньне (рэфэрэндум) па пытаньню аб канфіскацыі маемасьці былых пануючых фаміліяў.

Прапанова лявіцы аб канфіскацыі маемасьці правалілася і цяпер справай гэтай займецца Рэйхстаг.

**Турцыя.** У Сьмірне, у часе пабыту тут прэзыдэнта Рэспублікі, быў падгатаваны на яго замах. Але паліцыя выкрыла яго і арыштавала вінавайцаў у якіх знойдзена шмат аружжа і бомбы.

**Эгіпет.** Палажэньне значна завастрылася. Прыхільнікі Заглуль-Пашы дабіваюцца назначэньня яго прэмьерам і перамены адносінаў да Англіі.

## Праграма

### Зьезду Заходняй Беларусі,

які адбудзецца 27 чэрвеня г.г. у Вільні

1. Выбары Прэзыдыума.
2. Даклады з мейсц.
3. Рэфэраты:
   а) агульна-палітычны,
   б) па зямельнаму пытаньню,
   в) па школьнаму пытаньню,
   г) аб беларускім мастацтве і тэатры і
   д) па рэлігійнаму пытаньню.
4. Падзел на сэкцыі: палітычную, арганізацыйную, зямельную, школьную і рэлігійную.
5. Даклады сэкцыяў.
6. Бягучыя справы.
7. Выбары Беларускай Рады.

**Вяч. Шышкоў.**

## Парада.

*(Апаведаньне са зборніку выданага ў Маскве).*

Дзядзька Сілант спусьціўшы штаны ў свайго сына Гараські сек яго віткай гаворачы:

— Будзеш, чарцянё? Будзеш? Будзеш прадсказываць?

Ушчамленная паміж каленаў галава Гараські раўла на ўсю вёску, а голы зад глядзеў тупа ў неба і раз-за разам пакрываўся чырвонымі прэнгамі. Прыбеглі Гараськава матка, падсьляпаваты дзед, крычэлі на Сіланта:

— За што ты? Звар'яцеў, ці што?

А той не перастае:

— Будзеш, паскуда? А? Будзеш? Я табе пакажу прадсказываць!

Гараська пасінеў, з рубцоў во-во трысьне кроў...

Зьбегліся на гвалт суседзі.

— Браткі, бяры яго!

Сілант выпусьціў Гараську і матнуў галавой, каб адкінуць апаўшыя на вочы кудлы.

— Ды як-жа-ж, нясклядна загрымеў ён;

Паскуда гэткая! Пачаў прадсказываць, што чалавек ад малпы выходзіць. Значыцца і ты, сучы сын, не маткі сваёй, а ад малпы? А можа ад кошкі, або мышы? Забью, паскуда! Гэткі аб'явіўся новы сказчык! Ах, ты... Давай яго сюды хутчэй!..

Але Гараська вырваўся і папёрся да рэчкі абхалажывацца. А ў дагонку:

— Я табе так упішу, год цэлы уверх задам сідзець будзеш! Я табе прадскажу! Трымай яго!

Нехта зарагатаў. Сілант стаяў мядзьведзям, доўгі, лахматы, нат' рукі шэрсьцяй абросшы.

— Тут не да сьмеху, сказаў ён. Чулі, якія словы паршывец загнуў мне? Быццам комуніст. А ўсяго дзявяты год шчаняці. Вось табе дык новы рэжым!

— Хлопцы — хуліган на хулігану... Як крапіва растуць...

— А чаму? Школы няма, сказаў Сілант.

— Бяз школы — сьмерць, падхапілі мужыкі.

— Будзь хоць дрэненькая школа, ўсёж т'кі айцец Сяргей малітвам бы абучаў, лярыгіі.

— Браты! Сілант злажыў накрыж рукі на грудзёх: А давайце ў сур'ёз школу... Вунь які аграмадны зруб кінуты, гніе дарма. Як дружна ўзяцца — жыва абарудуем...

Падыйшоў йшчэ народ. Гутарылі да вечара. Рашылі будаваць.

* * *

Блішчэлі сякеры, пішчэлі пілы, падзёргіваючы ды з уханьнем валаклі бэльку. Праца кіпела.

— Хай нюхнуць, чым пахнець, казаў Сілант. Школа будзе — дык ай люлі!

А то засьмеялі нас суседнія вёскі, асабліва Раменьне; адзін казаў нам: лесавікі. А чым мы вінаватыя, што жывем ў лесе?

— Толькі чур, маўчок, хлопцы, сказаў Сіланці: каб ні адна вёска не пранюхала. Мы ім пацатрэм насы. А скончым — казьне ахвяруем: на, таварышы, атрымай! Вось якія мы лесавікі! А іншыя вёскі, хоць і не лесавікі — школы ня хочуць. У Раменьні школу зачынілі, вучыцель з жонкай у жэбры пайшоў. Вось яны якія, не лесавікі! А мы—лесавікі.

Сілант пыхцеў піпкай і сапеў адздаваленьня.

* * *

У пагодны асеньні дзень прад вачыма заведуючага паветовым наробразам стаялі—прадсядацель сельсавета Аляксей Пятроў, маленькі і востралікі бы лісёнак, а з заду—сам Сілант.

— Што скажаце? ўзьнялася ад папераў пляшывая гарадзкая галава ў акулярах.

— А вось, таварыш, з вёскі Дыркіна дэпутацыя, — бойка пачаў Аляксей Пятроў, але абсекся і кашлянуў у кулак.

— Якая дэпутацыя, дзе?

— Гэта значыцца асабіста, мы, як адрубіў Сілант.

— Я слухаю. Галава самкнула брытыя вусны і папpавіла акуляры.

Аляксей Пятроў, чалавек бывалы, на'т ваяваў у Карпатах; ён усю дарогу вучыў мову, а вось тут чорт яго ведае...

— Дзеля таго... пачаў ён папраўляючы свае рыжыя вусы, — як мы жывем зусім ў лясу, і як гэты лес быў абшарніка Гусева, і дзеля таго, як нас, гэта значыць Дыркаўцаў, усе лічылі лесавікамі...

— Карацей, карацей, нецярпліва сказала галава і павяла плячом.

— Жадаем мы савецкай уладзе школу падараваць — грамыхнуў Сілант і пагладзіў бараду.

— Жадаем падараваць школу — падхапіў сельсавет. Дзеля таго, як мы наладзілі школу сваімі сродкамі, гэта значыць дыркаўцы і ў дзень Узьвіжаньня сьвятого Крыжа Хрыста, хочам гэту самую школу пасьвяціць...

Заведуючы дзёрнуў плячыма і крапчэй сьціснуў вусны.

— Значыцца адчыніць, таварыш, адчыніць! ізноў грамыхнуў ўвесь пад потам Сілант. Дзеля гэтага просім вас зрабіць ласку прыехаць або прыслаць якога-небудзь добрага сябру. Вельмі пажадана нат. А то паршывыя чэрці мужыкі з суседніх сёлаў праходу не даюць: лесавікі ды лесавікі.

— Толькі пажадана, калі сябра, дык каб рускай веры, згодна з пастановай сельсходу, сказаў Аксен.

— Дзеля чаго? і абедзьве нагі заведуючага са злосьцяй заварушыліся пад сталом.

— Канешна, народ у нас цёмны, сказаў Сілант і залажыў рукі ўзад — асабліва бабская парода, патрабуюць, каб абавязкова — малебства.

— У школе абразоў мець ня можна і наагул рэлігія выганяецца са школаў. У прыватным жыцьці — гэта можна.

— Я таксама на гэтым пункце—сказаў Ак-

# Правакатары не сьпяць.

Дзякуючы поўнаму банкроцтву беларускага парлямэнцкага прадстаўніцтва, якое аказалася зусім няздольным да рэальнай палітычнай працы і ў сучасны мамэнт ужо зусім не выяўляе імкненьняў і жаданьняў сваіх выбаршчыкаў, беларускі народ апынуўся ў вельмі прыкрым становішчы.

Стварылася гэткае палажэньне, што беларускія паслы рабілі сваю „высокую“ палітыку, гулялі ў „апазыцыйнасьць“ і „рэвалюцыйнасьць“, зусім ня думаючы аб жыцьцёвых патрэбах свайго народу, а беларускі народ заставаўся зусім безбаронным.

Зусім зразумела, што гэткае ненармальнае палажэньне доўга цягнуцца не магло. Добра разумеючы неабходнасьць органу, які выяўляў-бы праўдзівыя (а не па рацэпту „Грамады“) нашыя нацыянальныя імкненьні, здаровая частка беларускага грамадзянства пачала шукаць новых шляхоў.

У рэзультаце гэтага, у верасьні 1924 г., на канфэрэнцыі ў Вільні, была выбрана Часовая Беларуская Рада, якая, па думцы яе арганізатараў, і павінна была ўзяць у свае рукі кіраўніцтва палітычным беларускім жыцьцём да часу скліканьня агульнага Зьезду Заходняй Беларусі, на якім мелася быць выбрана пазапарлямэнтарнае беларускае прадстаўніцтва.

Пачаўшы сваю працу ў атмасфэры недаверра беларускага грамадзянства, бо ў той час яшчэ не для ўсіх была ясна банкроцтва і няздольнасьць парлямэнцкага прадстаўніцтва, Часовая Беларуская Рада за няпоўныя два гады свайго істнаваньня значна ўзмацавалася. Уплывы яе пашырыліся гэтак, што цяпер ужо сьмела можна сказаць, што няма ў Заходняй Беларусі гэткага кутка, дзе не было-б прыхільнікаў і сымпатыкаў Часовай Белар. Рады і яе ідэалёгіі.

Шалёная і правакацыйная агітацыя, якую адразу-ж павяла проці Час. Белар. Рады комуністычная прэса „дзеяча“ Луцкевіча, нічога не магла зашкодзіць гэтай здаровай інстытуцыі, бо само жыцьцё паказала на чыёй старане праўда. Банкроцтва і поўны развал Беларускага Пасольскага Клюбу паказалі беларускаму народу—хто яго праўдзівыя абаронцы і з кім ён павінен ісьці.

Часовая Беларуская Рада лічыла сябе прадстаўніцтвам часовым і дзеля гэтага ўвесь час імкнулася да таго, каб склікаць Зьезд Заходняй Беларусі, на якім беларускі народ праз сваіх дэлегатаў мог-бы выбраць заўсёднае пазапарлямэнтарнае прадстаўніцтва, якое да часу новых выбараў у Сойм павінна была-б замяніць збанкрутаваўшы Пасольскі Клюб.

Аднак, ня гледзячы на ўсе стараньні Рады, да гэтага часу не ўдавалася дастаць дазволу на гэткі зьезд.

І толькі цяпер, пасьля падзеяў 12 траўня, Рада атрымала нарэшце магчымасьць склікаць зьезд, які і адбудзецца ў Вільні 27 гэт. чэрвеня.

І вось, чым бліжэй мы да мэты, чым бліжэй да тэй хвіліны, калі нарэшце маўчаўшы да гэтага часу беларускі народ зможа праз сваіх прадстаўнікоў выявіць сваю запраўдную волю і жаданьні, тым больш непакоіцца „чырвоны“ стан „дзеяча“ Луцкевіча.

Гэтая „кумпанія“ добра разумее, якую вялікую вагу будзе мець гэты запраўдны народны зьезд. Яны баяцца голасу народа. Яны слушна баяцца, што народ на гэтым зьездзе скажа нарэшце ўсю праўду аб тым, як яго „баранілі“ яго няўдалыя прадстаўнікі. Яны баяцца, што ім не дазволяць больш спэкуляваць на беларускай нацыянальнай справе. Яны баяцца страціць свае мандаты, а разам і зьвязаныя з імі асабістыя матэрыяльныя дабрабыт і нетыкальнасьць.

Дзеля гэтага яны ў апошні час павялі ў сваёй прэсе шалёную агітацыю проці Зьезду Заходняй Беларусі. Пушчаны ў ход усе магчымыя сродкі, пачынаючы ад правакацыйных „перасьцярогаў“ у комуністычнай „Беларускай Справе“ і канчаючы яўнай правакацыяй. На атрыманыя на гэту мэту ад чырвоных суседзяў грошы, па вёсках раз'ежджаюць агенты Луцкевіча і вядуць прапаганду проці зьезда. У некатарых месцох былі нават спробы грашыма падкупіць выбраных на зьезд дэлегатаў. У іншых месцох гэтыя правакатары прабавалі застрашыць дэлегатаў, гаворачы, што ўсім хто паедзе на зьезд пагражае арышт і іншыя непрыемнасьці з боку ўлады.

А нядаўна выйшаўшая замест нябожчыцы „Беларускай Справы“, якая дзеля нейкіх „тэхнічных“ прычынаў скончыла сваё бясслаўнае жыцьцё, — новая комуністычная рэптылія „Народная (?) Справа“ дык проста кажа, што вучасьнікі Зьезду Заходняй Беларусі могуць апынуцца... на Лукішках.

Але дарэмны, паночкі, усе вашы высілкі. Ніякая правакацыя вам не паможа! Не памогуць вам на'т і бальшавіцкія грошы!

Як відаць з прысланай нам масы пісьмаў з провінцыі, правакацыі гэтыя нікога не палохаюць. Зьезд Заходняй Беларусі выклікаў вялікае зацікаўленьне і дэлегаты на яго зьбіраюцца са ўсіх куткоў нашай многапакутнай Бацькаўшчыны. Нажаль цяжкія матэрыяльныя варункі не даюць магчымасьці прыехаць на яго ўсім жадаючым.

Ня гледзячы на ўсе бальшавіцкія правакацыі, Зьезд Заходняй Беларусі усёжткі адбудзецца!

Дык пажадаем-жа яму творчай рэальнай працы па карысьць нашай Бацькаўшчыны!

Мы верым, што ў новых варунках, якія стварыліся пасьля падзеяў 12 траўня, гэтая праца дасьць добрыя рэзультаты і прынясе вялікую карысьць нашаму гаротнаму народу.

*А. К—ін.*

# У С. С. Р. Р.

## Жыдоўская рэспубліка.

Па апошнім весткам Урад С.С.Р.Р. мае замер аддаць вялізныя абшары „паўдзённай Расеі“, г. зн. Украіны, а іменна ў губ. Херсонскай, Екатэрынаслаўскай і ў Крыму на пасяленьне там жыдоў і стварэньне з гэтых земляў г. зв. жыдоўскай рэспублікі. Жыдоўскія капіталісты маняцца з свайго боку дапамагчы грашыма на зьдзейсьненьне гэтага праэкту. А ўрад ССРР. бярэцца наагул фінансаваць усю гэтую імпрэзу. Гэткім чынам Расея абагаціцца яшчэ аднэй „незалежнай“ (ну, гэта дык ужо запраўды будзе незалежнай, бо-ж пад пратэктарам цароў Троцкіх, Апфэльбаўмаў і К-о) рэспублікай, ўвесь сьвет—яшчэ аднэй жыдоўскай дзяржавай, ну, а жыды—яшчэ аднэй „айчызнай“. Пэўне-ж гэтая айчызна, тымчасам прынамсі, будзе лепшай чым далёкая Палестына. Але вось што; ці жыды падумалі аб тым, што калі ў Палестыне, на якую як-ніяк яны маюць нейкае права, арабы не даюць ім запанаваць над сабой, дык на Украіне, на якой яны лічацца толькі прышэльцамі, дзе істнуе векавы антаганізм паміж прыроднымі гаспадарамі і наплывовым элемэнтам, і дзе ўжо заяўлены ўсім сялянствам востры пратэст проці асадніцтва—іхняя новая „абятаваная зямля“ можа явіць прыклад, як гэта людзям часамі і „неба з аўчынку“ паказваецца і дзе ёсьць „Кузькіная маці“...

## Ня маюць грошаў.

У апошнія часы ў зьвязку з паніжэньнем курсу савецкіх грошаў і агульным недахватам іх, праводзіцца „эканомія“ выдаткаў. Зьмяншаюцца работы на фабрыках, кепска нешта з выплатай дапамог безработным і г. д. А нарэшце аказваецца, што няма чым аплаціць пэнсыю навет чырвонаармейцам... І пэўна: адкуль-жа быць грошам, калі іх цэлымі кучамі вываліваюць на розныя рэвалюцыі ў Кітаі, Індыі і інш. мясцох, ды на аплату розных агітатараў па ўсяму сьвету? А ўрэшці—абы было верхаводам. А іншым „рабам“? Могуць пачакаць! Ім і іхнім жонкам ня трэ' загранічнае лячэньне, як ўдаве Леніна ці жонкам „саноўнікаў“, на што грошы і вялікія —заўсёды знайдуцца!

## Работнікі ССРР. і Англіі.

Калі забаставалі ангельскія рабочыя, камітэты пачалі атрымліваць вялізныя сумы грошаў з Саўдэпіі. Агулам паслана з ССРС. больш 500.000 ф. стэрл. (каля 5 мільёнаў залатых рублёў!). Грошы гэтыя, па афіцыяльным заявам Саўдэпаўскіх верхаводаў, зьяўляюцца „дабравольнымі ахвярамі“ расейскіх работнікаў. Якія гэта „ахвяры“ і як „дабравольна“ зьбіраюцца, відаць з публікацыяў „Праўды“, „Ізвесьціяў“ і іншых бальшавіцкіх газэтаў. Робіцца гэта так: нейкі „партыец“ уносіць некалькі рублёў і друкуе ў газэце „вызаў“ тых, каго ён знае, называючы прозьвішчы. Паспрабуй, калі Г.П.У. як ашалелае праводзіць ізноў сыстэму „чырвонага тэррору“ — не

---

сён і затросся. Я, як прадседацель сельсавету, не магу прызнаць рэлігіі і забараняю нават у дамашнім палажэньні... Рэлігія—опіум народу.

— Іш брэша гад, буркнуў Сілант.

— Але з прычыны таго, што прымаючы пад увагу — замарматаў — заплутаўся Аксен, выходзячы з пункту, мы сабралі сход. І з прычыны колькіразовага разгледжаньня я паставіў пытаньне на адкрытае галасаваньне праз падняцьце ўверх усіх рук.. Ен запнуўся і замаўчаў.

— Ну?

— І пастанавілі аднагалосна,—ціха, гледзячы ў зямлю сказаў Аксён,—што як Бог, так аднолькава і рэлігія зусім знаходзяцца, асабліва бабы.

Нарабраз усьмяхнуўся, потым нахмурыўся, сарваў акуляры, і выплюнуў акурак на падлогу.

— А вы, таварышы, не бойцеся—падыйшоў да самага сталу Сілант і ўстросшы бутэльку з атрамантам, якую узяў на стале — паглядзеў яе на сьвет. — Заставайцеся зусім спакойны, нічога на'т ня ўбачыце. У нас усё абмазгована – ай-люлі! Па лірыгіі — асаблівая стацьця, а па савецкай модзе—асаблівая. Дык прыедзеш, — прыяцель?

Нарабраз задумаўся. Выпіць ён не дурак і нырка ў яго, як кажуць аж сьвісьцела, аднак на гэтай пасадзе ён ледзь трымаўся, меў ужо дзьве паважныя ўвагі і калі-б... „Эх!“ і ён махнуў рукой:

— Добра, прыеду!

— Вось і добра! Сілант з шумам адсунуў крэсла, сеў, харкнуў, сказаў Аксену: садзіся, чаго стаіш? Пагутарыць трэба з таварышам.

Аксен нясьмела сеў, пасьлюніў канцы пальцаў і закруціў вусы сьвідэркамі ўверх.

На разьвітаньне нарабраз крэпка сьціснуў ім рукі.

З паваротам ехалі з шыкам, з бубенчыкамі?

— Каб партрэты іхнія нек не згубіць.

А праежджаючы праз Раменьне — ох гэтае Раменьне!—Сілант задраў бараду да гары і падперся ў бакі. Аксен таксама ўткнуўся носам ў неба. Калі пад'ехалі да дому—Аксен сказаў:

— Я так кумекаю, што нашаму Дыркіну сялу павінны выдаць ачыстат...

* * *

Дыркаўцы на сходзе пастанавілі параду спраўляць у складку, а Сіланта паставілі старастай: мужык самастойны і можа быць „адпаведным з начальствам“.

Сілант за тыдзень да дня Узьвіжэньня гатаваў самагон і кожны дзень зраніцы ўжо быў выпіўшы. Баба лаялася.

— Трэ' чэсьць-чэсьцяй усё, каб прызваіта. Я ім пакажу, якія мы лесавікі — бубніў мужык. А начальства трэба шанаваць.

Напярэдадні ён сядзеў пьяны на куфры і перабуваўся цэлую гадзіну: усё неяк ня выходзіла.

— Гараська! а ну сьпяі гэту, як яе, наконт сьвету слова...

Гараська—з бацькай кепскія гутаркі — насьпех праглынуў блінец і тоненька запішчэў:

„Мы свой, мы новы сьвет збуду—ем...“

Баба, маленькая круглая, бы тая куля, мясіва парасятам рабіла.

— Правільна — сказаў Сілант. А тырнацыянал іхні можаш?

— Ня ўвесь — і Гараська кусануў блінец.

— Хош жраць! нажрэшся йшчэ! Комуніст! Бяжы вось хутчэй у ячэйку ў Раменьне, разумееш? У ячэйку. Вазьмі іхні песяньнік. Ды клікні пастуха, тутка, ля рэчкі ён. Моў: бацька наказаў прыйсьці. Тырнацыял, значыцца, вучыць. Ен комунісьцішка здаецца: усе пяе гэтыя розныя іхнія... Ну, паварачывайся!

Гараська заціснуў у руцэ два бліна і паказаў пяткі.

Сілант паставіў нагу на вялізную анучу і загрымеў:

„Мы свой, мы сво...

— Ды што ты гукаеш быццам ў лесе! Закрычэла баба.

— Маўчы, прыгразіў Сілант. — Не зьбівай, сам магу зьбіцца. Ен падняў нагу і абкруціў яе анучай справа ў лева.

„Мы свой... ммы н-о-о...

— Каб ты падавіўся! Ізноў нажраўся гэтай самагонкі праклятай... Хоць бы хлеў пачысьціў... Ступіць нельга...

— Які-такі хлеў? Есьць мне час з тваім хлевам няньчыцца... Ты вось што, калі разумееш такцыю, каб пастуху заўтра чырвоная кашуля была. І мне чырвоная. Чуеш? Мы з ім ўперад пойдзем, за сьцягам іхнім... Тырнацыял каб... Парада...

Ен йшчэ раз перакінуў нагу і зарычэў, са злосьцяй зіркаючы на бабу.

„Мы свой... Мы но-но-вы сьсьвет...

— Цьфу! падскочыла да яго баба з мясівам. Вось і выльлю на башку гэтую кудлатую!..

...па-а-стро-ім...

Адыйдзі! Ботам запушчу!

Мы сво-ой... ммы...

Баба, лаючыся пайшла ў дзьверы.

— Стой! закрычаў Сілант і перакінуў у трэці раз анучу. Пакліч Янку — салдата, каб з ножніцамі зьявіўся... Чуеш? Моў: бараду к чорту і башку да голага, па месцоваму, як нарабраз.

Баба грымнула дзьвярыма.

— Белагвардзейка, чорт, зашыпеў Сілант.

Валасы, бы клакі пакулаў завісалі на нос, на вушы, на плечы, уся твар была ў шэрсьці і барадзішча на усю грудзь; толькі нос вось тырчэў бы бот неякі, ды жмурыліся пьяныя вочы. Ен доўга пыхцеў акручываючы анучы і на свабодзе гудзеў:

Мы сьвет... Мы новы сьвет збу-ду-е-ем!

Надта добра... гучна... Йшчэ прасьпяваў разоў пяць і пачаў паціху разувацца.

*Збеларушчыў Б. Д.*

(*Працяг будзе*).

# № 15 НАШ САТЫРЫКОН № 15

**Гумарыстычна — сатырычны дадатак да „Беларускага Слова“.**

## СУЧАСНАЕ.

(АДРЫВАК).

Як жывуць цяперка людзі?
Разглядзісь на ўсе бакі:
Ураз спаткаеш ці бязглуздзе,
Ці тырчаць зьвяроў клыкі.

Сільны гне ў дугу слабога:
Гіне слабы і бядняк;
Хоча больш, хто мае многа,
Пнецца мудрым быць дурак...

Пралезае ў „збаўцы люду“
Шарлатан і пустазвон;
Дзе ні глянь—усе поўна бруду,
Ілжа стала за закон.

Думны хто, ідэалісты,
Прападзе як ні круці.
А чым больш у сэрцы чысты —
Тым ён меней варт у жыцьці.

Шэльмы ўраз ідуць гарою,
А за імі — спрытны хто,
Дый з гумоваю душою—
Пражыве свой век нішто!

Чэсьць і чыстае сумленьне,
Сэрца мяккае і вум —
Сяньнешняе пакаленьне —
Лічыць за цяжар і глум...

Задаецца хто пытаньнем
Аб „высокім“ і „сьвятым“.
Дачакае—асьмяяньня,
Назавуць яго дурным...

Сяньня кожны зарагоча
На ўспамін: сьвятое, Бог...
„Ідэалаў, бач, вось хоча,
Ха-ха! Дурак, дальбог!“

Глупства—усі „патрэбы духа“,
і жыцьця „сьвятая цэль“.
Ідэал—патрэбы бруха,
Бог—дубіна ды рубель!

Дык як хочаш ясна й ціха
Свайго веку пражыць дні —
Кінь „духоўнае“ да ліха,
Ідэалы—прэч гані!

Хай арлы ляцяць у неба,
Недзе аж пад ваблакі!
Каму жыць з ваўкамі трэба—
Хай вые так, як ваўкі!..

*Б. Д.*

* * *

*(З Нікіціна).*

Выкапана рыдлям яма глыбокая...
Жыцьцё невясёлае, жыцьцё адзінокае!
Жыцьцё бязсхоўнае і церплівае,
Жыцьцё—бы васеньняя ночка, маўклівае!
Прайшло яно горка, бяз цэлі, дарма.
І бы аганёк пагасла, няма!
Што-ж? Сьпі ўжо доля мая суровая!
Моцна замкнецца дамавіна сасновая,
Шчыльна засыпяць зямлёй яе людзі.
Адным чалавекам толькі меней будзе!
Быў і няма... страта незначная,
Ей не займецца і памяць няўдзячная.

Чу... слышыцца недзе песьнь безклапотная,
Госьця палёў, пявуньня залётная,
У сінім паветры, на волі купаецца,
Бы серабро зьвініць, разсыпаецца...
Ціха!.. Быльлём шлях жыцьця ўжо парос...
Ня тр'э ужо болей ні песьняў ні сьлёз...

*Б. Д.*

---

„ахвяраваць“ той сумы, што „вызываючы“ таварыш—партыяц унёс! І вось расейскі работнік зарабляючы ў сярэднім 25—35 руб. у месяц пры цэнах на боты напр. 30 руб.—„дабравольна“ ахвяраваць павінен ангельскаму рудакопу, які зарабляе ў сярэднім да 50 руб. у тыдзень—5—6 часьць свайго месячнага заробку... Ясна, што аб „дабравольнасьці“ тут ня можа быць і гутаркі, бо-ж хіба работнік Бальшэвіі не звар'яцеў яшчэ, каб адымаць ад сябе і сваёй сям'і сваім гарбом заробленага кавалка хлеба, каб даць булку ангельскаму работніку, які і забастоўку зрабіў дзеля таго, што да булкі захацеў ня толькі масла, але і яшчэ нейкага прысмаку.

## Тутэйшая хроніка.

**Зьезд Заходняй Беларусі.** З прычыны таго, што многія дэлегаты з провінцыі прасілі аб пераносе зьезду на дзень сьвяточны, Зьезд Заходняй Беларусі адложаны і абавязкова адбудзецца у нядзелю 27 чэрвеня г. г.

Прыежджаючых дэлегатаў будзе спатыкаць на вакзале ў Вільні прадстаўнік Час. Белар. Рады, які будзе мець адзнаку з нацыянальных беларускіх калёраў.

**У справе выезду у Францыю.** 26 г. чэрвеня Віленскае Бюро Пасрэдніцтва Працы пачне рэестрацыю сельска-гаспадарчых работнікаў, жадаючых выехаць на работы ў Францыю. Выехаць на работы могуць мужчыны-земляробы, маючыя ад 27 да 45 гадоў. Тыя-ж, якія ня маюць яшчэ 27 гадоў, павінны атрымаць дазвол на выезд за граніцу ад P.K.U. Апрача мужчын будуць прымацца і жанчыны маючыя 21 го..

Кожны выежджаючы павінен мець пасьведчаньне абыватэльства і 30 злотых на падарожу. Багажа можна ўзяць толькі 30 кілёграмаў.

**Прызыў на вайсковую службу.** Паміж 12 і 14 ліпня павінны зьявіцца у вайсковыя часьці гэткія асобы: 1) усе тыя ахвотнікі, якія ў 1926 г. падалі просьбы аб прызнаньні ім на паўтарагадавую службу і якім эта права была прызнана; 2) усе радзіўшыяся ў 1904 г., якія мелі адсрочку да 1 ліпеня г.г. і карыстаюцца правам паўтарагадавой службы. 3) радзіўшыяся ў 1898 — 1904 г. г.; якім было прызнана права на паўтарагадавую службу, калі яны ня маюць права на далейшую адсрочку: 4) радзіўшыяся ў 1904 г. і раней, маючыя афіцэрскі цэнз і якія мелі адсрочку да 1 ліпеня г.г. незалежна ад таго—ці маюць яны права на паўтарагадавую службу ці не.

**Прызыў настаўнікаў.** У гэтым годзе будуць прызваны на 8 тыднёвы курс вайсковага абучэньня паміж 5 ліпеня і 26 жніўня настаўнікі Пачатковых школаў, якія радзіліся ў 1901, 2 і 3 г.г. і былі залічаны ў рэзэрву згодна ст. III закона аб агульнай вайсковай службе ад 23—У—1924 г.

**Азімыя пасевы.** Стан азімых пасеваў у Віленшчыне нездавальняючы і ў сярэднім дасягае толькі 30 працэнтаў нармальнага. Вынятак становіць Дзісьненшчына, дзе ўраджай дасягае 75 прац. нармальнага.

**Зварот ўтрыманых грошаў** 1 ліпеня ўсім урадовым служачым будуць зьвернены тыя 4—6 працэнтаў, якія адлічаліся ад іхняе пэнсіі пачынаючы ад 1-га студня г.г.

**Курс на грошы.** Афіцыяльны курс даляра застаўся той самы—9 зл. 98 гр. На чорнай біржы плацяць 10 зл. 10 зл. 20 гр.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

*Ястжэмбцу—Казлоўскаму ў Варшаве.* Газэту Вам пасылаем пачынаючы ад 1—VI. Падпіска на 3 месяцы каштуе 2 зл. 50 гр.

*Свойскаму.* Пасылаем пробныя нумары; калі хочаце атрымліваць далей—прышліце падпіску.

*І. Станько і А. Цэлка.* Вашу просьбу спаўняем.

*Т. Шчэбету.* Газэту высылаем. Прысылайце падпіску.

*А. Селічу.* Безплатныя юрыдычныя парады даюцца намі толькі падпісчыкам. Дзеля гэтага адказу на запытаньне не атрымаеце.

*Б. Стэцкаму.* Карэспандэнцыя не падыйшла; прысылайце што больш цікавае.



## ГРАМАДЗЯНЕ!

Хто можа ахвяруйце кніжкі хоць у якіх мовах на Бібліятэку ім, Фр. Скарыны ў в. Барадзенічах, Браслаўскага пав.

Кніжкі можна перадаваць праз рэдакцыю „Беларускага Слова“.

**Урад Бібліятэкі.**

Адказны Рэдактар Т. Вернікоўскі. Друк А. Дворжэца Завальная 32. Выдавец Ч. Бел. Рада